# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 3 (1601) ГОД XXXII БЕЛАСТОК 18 СТУДЗЕНЯ 1987 г. ЦАНА 10 зл.




Фота Л. Тарасэвіча

# СЯМЯЦІЦКІ „ГОРТЭКС"

Слова „гортэкс" паходзіць з лацінскай мовы. „Гортус" — абазначае агарод або сад. Значыць, слова „гортэкс" звязана з вырошчваннем фруктаў і гародніны.

Сямяціцкі „Гортэкс" — гэта вялікае прадпрыемства, пабудаванае адной з італьянскіх фірмаў па апошняму слову тэхнікі. Адразу яго планавалі будаваць у Бельску-Падляшскім. Перамаглі, аднак, сямяціцкія дзеячы, і ў 1976 годзе „Гортэкс" пачаў будавацца ў Сямяцічах. Інструктарская служба адразу ж пачала заахвочваць сялян вырошчваць гародніну і фрукты ў Сямяціцкай і Драгічынскай гмінах. А тады ж яшчэ рэдка хто садзіў тут такія расліны, як ярмуж, шпінак, капуста-брусельска, шпараговая фасолька і інш. Нават чорнай і чырвонай парэчкі, агрэсту, вішань, сліваў і малін ніхто ў большых колькасцях не вырошчваў. Найбольш было яблык, але таксама не столькі, колькі трэба было „Гортэксу".

У 1978 годзе ў Сямяцічах пачалі выпускаць марожаныя фрукты і гародніну, а пазней і іншыя прадукты з гародніны. Прадпрыемства пашырала асартымент сваіх вырабаў і адначасова павялічвала колькасць вытворцаў ва ўсіх гмінах былога Сямяціцкага павета.

Сёння „Гортэкс" налічвае 4,5 тыс. вытворцаў. У мінулым годзе закупіў ён 45 тыс. тон фруктаў і гародніны. Працуе на прадпрыемстве каля 1100 чалавек.

„Гортэкс" для Сямяціцкага рэгіёна стаў жыццедайным прадпрыемствам. Ён даў працу не толькі многім жыхарам горада Сямяціч, але таксама і вясковым людзям. Прадпрыемства сваім транспартам давозіць на работу працаўнікоў з далейшых вёсак — Клюковіч, Тымянкі, Нурца, а таксама з ваколіц Мілейчыц і Драгічына.

„Гортэкс" спрыяў перастаноўцы сельскагаспадарчай вытворчасці з традыцыйнай на агародніннную, значна павялічыўшы гэтым самым сялянскія даходы. Сёлета сяляне атрымалі тут за плён сваёй працы 600 мільёнаў злотых. Найбольшым вытворцам з'яўляецца Драгічынская гміна. Другое месца па вытворчасці займае Сямяціцкая гміна.

Важна і тое, што „Гортэкс" даў працу многім жанчынам, якім у гарадах не хапае працы. Зрэшты, павышае ён сельскагаспадарчую культуру на вёсцы. Вырошчванне патрэбных прадпрыемству раслін, іх кантрактацыя абавязвае сялян выкарыстоўваць сучасныя метады пры апрацоўцы зямлі. Прадпрыемства абяспечвае іх насеннем патрэбных яму культур, дае таксама саджанцы. Вось, напрыклад, калі падпісваецца кантрактацыйны дагавор на 1 га трускалак, вытворца атрымоўвае адначасова 45 тысяч саджанцаў. Дарэчы было б сказаць, што ў мінулым 1986 годзе трускалак было куплена 5600 тон, а капусты-брусельскі — 705 тон.

Прадпрыемства выпускае сёння шмат марожаных фруктаў, замарожаную гародніну для супоў з 5 і 6 кампанентаў (цвятная капуста, морква, пятрушка, шпараговая фасоля, сэлер і пор).

Шмат вырабляецца на прадпрыемстве канцэнтратаў, згушчаных сокаў, а найбольш з яблыкаў. Прадпрыемства можа перапрацаваць 12 тысяч тон яблыкаў у год, і гэтага, на жаль, замала, паколькі пастаўкі прамысловых яблык значна большыя. Мінулы год быў рэкордны па ўраджаі яблыкаў, і таму прадпрыемства павялічыла сваю перапрацоўчую моц, каб не дапусціць да марнатраўства каштоўнай сыравіны. Зроблена шмат дзеля таго, каб прадпрыемства магло перапрацоўваць на канцэнтраты 24 тыс. тон прамысловых яблык.

На прадпрыемстве абсталявана 16 спецыяльных камер з рэ-

(Працяг на стар. 5)

# БРАНІСЛАЎ ТАРАШКЕВІЧ — НАДЗЕЯ І ДРАМА

Гадоў пятнаццаць таму назад я сустрэўся з Мельхіёрам Ваньковічам. Неяк нечакана пачаў ён адразу гаварыць не аб сабе, а аб беларускіх дзеячах і пісьменніках. Вось словы гэтага славутага пісьменніка: „Лёс мяне сутыкнуў з некаторымі вашымі пісьменнікамі і дзеячамі. Асабіста я ведаў Антона Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага, Максіма Танка, Міхася Машару. Аднак найбольшае ўражанне зрабіў на мяне Браніслаў Тарашкевіч. Такой інтэлектуальнай шырыні і глыбіні, як ён, не прадстаўляў ніводзін з тых беларусаў, якіх я ведаў".

Несумненна, такая высокая апінія аб Тарашкевічу сталася прычынай майго сціплага зацікаўлення постаццю Браніслава Тарашкевіча. Адкуль паявілася ў беларускім палітычным, навуковым, публіцыстычным і літаратурным жыцці гэта выключная постаць? Нарадзіўся Браніслаў Тарашкевіч 20.1.1892 г. у засценку Мацюлішкі Віленскага павета, у каталіцкай сям'і. Пасля заканчэння гімназіі вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, на гісторыка-філалагічным факультэце. Закончыўшы універсітэт, атрымаў прапанову навукова-дыдактычнай працы ў ім. З часам дайшоў да ступені дацэнта. Ужо ў студэнцкія гады адыграў важную ролю як арганізатар гуртка студэнтаў-беларусаў. Гурток гэты ставіў перад сабой амбітныя мэты навуковага даследавання Беларусі і ў сувязі з гэтым звяртаўся да многіх слаўных тагачасных вучоных, знаёмячы іх з планамі сваёй дзейнасці. На анкеты гуртка адклікнуліся такія слаўныя тагачасныя вучоныя, як Аўсенік-Кулікоўскі, Шахматаў, фальклярыст Раманаў і іншыя. Усе яны горача падтрымлівалі ініцыятывы студэнтаў-беларусаў, сярод якіх вядучую ролю адыгрываў Браніслаў Тарашкевіч. Думка аб роднай краіне, аб яе нацыянальных правах і культурных патрэбах ніколі ўжо не пакінула Тарашкевіча. У 1918 годзе выдае ён першую ў новай гісторыі нашай нацыі „Беларускую граматыку", значэнне якой можна параўнаць з першай „Кароткай гісторыяй Беларусі" (1910 г.) Вацлава Ластоўскага.

Яшчэ раней, бо ўжо ў 1911 годзе ўступіў Браніслаў Тарашке-

(Працяг на стар. 4)

 




## АБ САМАРОДКАХ

Тэрмін „самародак“ адносіцца галоўным чынам да вялікіх кавалкаў золата, знойдзеных у глыбіні зямлі або вымытых з зямлі водамі. Назву гэтую хацеў бы я сёння аднесці да многіх аўтараў „Нівы“. Не хачу і не магу назваць усіх, бо мог бы кагосьці пакрыўдзіць хаця б такой ці іншай чарговасцю. Бо вядома, што некаторыя людзі прыдаюць вялікае значэнне таму, на якім месцы пастаўлена іх прозвішча, або як далёка ад вялікага начальніка пасадзілі іх у прэзідыуме. Скажу для прыкладу, што некалькі гадоў таму назад хтосьці з нашых аўтараў прыйшоў да Валкавыцкага з прэтэнзіямі. Былі яны звязаны з тым, што ў „Ніве“ ў інфармацыі аб аўтарскіх сустрэчах было сказана пры маім прозвішчы „вядомы“, а пры прозвішчы гэтага аўтара такога дадатку не было. Вось гэта і сталася прычынай пратэсту пісьменніка. Я асабіста згаджаюся, каб пры маім прозвішчы ніколі не было такіх дадаткаў, а пры прозвішчах іншых, калі яны гэтага толькі прагнуць, паяўляліся як найбольш панегірычныя акрэсленні.

Аднак я адышоў ад галоўнай тэмы. Тое, аб чым я хачу сказаць, гэта шляхетныя самародкі, а да такіх я сябе не адношу, хаця б з тае прычыны, што маю беларусазнаўчую адукацыю і ўменне пісаць з сэнсам па-беларуску з'яўляецца маім элементарным абавязкам. Гаворачы аб самародках — аўтарах „Нівы“, маю на ўвазе тых людзей, якія беларусазнаўчай адукацыі не маюць і, нягледзячы на гэта, дасканала адчуваюць беларускую душу і патрапяць аб ёй сказаць вельмі важныя, а нярэдка адкрыўчыя праўды.

Скажу тут толькі аб двух „самародках“ — аб Дзядзьку Квасе і Аўроры. Чаму? Хаця б таму, што гэта аўтары двух беларускіх пакаленняў і таму, што яны — мужчына і жанчына. Зрэшты, калі гаварыць шчыра, дык я не ўпэўнены, што Аўрора жанчына. Бо вядома, што мужчыны таксама могуць паслугоўвацца псеўданімамі жаночага роду. Аднак тэматыка публікацый Аўроры, веданне жаночай душы ўсё ж пераконваюць мяне, што Аўрора гэта жанчына.

Так выйшла, што я ніколі не сустрэў Дзядзькі Кваса і зразумела, што ўжо не сустрэну, бо аўтар гэты не жыве. Тым болей хачу пакланіцца памяці чалавека, які трывала, як гэта гаворыцца, залатымі літарамі ўпісаўся ў гісторыю „Нівы“, а тым самым і ў гісторыю беларускага руху ў Народнай Польшчы. Многія публікацыі Дзядзькі Кваса былі вельмі паважным укладам у беларускую публіцыстыку, а праз гэта і ўкладам у беларускую культуру. Не сустрэў я дагэтуль і Аўроры, хаця, калі не памыляюся, яна мая суседка, бо паходзіць або і жыве ў Семяноўцы. Аднак не ведаю, ці гэта праўда. Так ці інакш, яе публікацыі з'яўляюцца цікавым зародкам сацыялагічных назіранняў многіх з'яў і працэсаў, якія выступаюць у сучасных беларускіх сацыяльных групах. Зразумела, што апрача гэтых аўтараў можна было б назваць і многія другія прозвішчы. Ці ўсё, што яны пішуць, мне падабаецца? Усё, за выключэннем аднаго. На жаль, некаторыя з аўтараў, як мне здаецца, чытаюць „Ніву“ толькі з той мэтай, каб з хвастоў чужых думак зрабіць галовы сваіх ідэй. Маю на думцы тых, якія са злосцю, а то і з нянавісцю накідваюцца на іншых аўтараў, а адзінае рэчыва,

(Працяг на стар. 5)




### ЛЕЎ ВЫГОЦКІ

Ураджэнец Беларусі Леў Выгоцкі вядомы як выдатны псіхолаг і педагог. Распрацаваная ім у перадваенныя гады культурна-гістарычная тэорыя паклала пачатак цэлай школе ў савецкай навуцы. Працы Л. Выгоцкага па развіццю вышэйшых функцый псіхікі, мысленню і мове, псіхалогіі мастацтва і сёння робяць уплыў на распрацоўку актуальных праблем навукі і практыкі. У мінулым годзе навуковая і педагагічная грамадскасць СССР шырока адзначала 90-годдзе з дня нараджэння Л. Выгоцкага.

У снежні ў Мінску прайшла навуковапрактычная канферэнцыя, прысвечаная творчай спадчыне Л. Выгоцкага. У ёй прынялі ўдзел буйныя вучоныя і спецыялісты Масквы, Беларусі і рада саюзных рэспублік. У дакладах і выступленнях падкрэслівалася важнасць псіхолага-педагагічных канцэпцый Л. Выгоцкага для ажыццяўлення рэформы сярэдняй адукацыі, перабудовы вышэйшай школы.

### СТАРАДАЎНІЯ ПАРКІ

Колькі захавалася старадаўніх паркаў на Беларусі? З такім пытаннем карэспандэнт „ЛіМа“ звярнуўся да намесніка дырэктара Цэнтральнага батанічнага саду Акадэміі навук БССР Анатоля Федарука. Чалавек гэты — піша тыднёвік — дваццаць гадоў займаецца садамі і паркамі, аб'ездзіў літаральна ўсю рэспубліку і на падставе зробленай работы склаў па заказе Дзяржкамрыроды БССР рэкамендацыі па іх захаванні і аднаўленні. А яшчэ вынікам карпатлівай працы стаў рэестр усіх старадаўніх паркаў або іх фрагментаў на Беларусі. Паводле рэестра Федарука іх — 534. Помнікамі архітэктуры з'яўляюцца 107. Каля ста старадаўніх паркаў па сённяшні дзень страчана беззваротна. Толькі ў Мінскай вобласці з 99 паркаў і паркавых участкаў загінула 18. У Гродзенскай вобласці — 25 са 140, у Брэсцкай — кожны чацверты парк.

### НОВАЕ АБЛІЧЧА АБРАДУ

Зварот да старадаўніх абрадаў на парозе XXI стагоддзя — зусім не настальгія па мінулым, — піша орган ЦК Кампартыі Беларусі газета „Звязда“, — хлеб-соль гасцям, іншыя рытуалы — неад'емная частка нацыянальнай культуры. Культуры, якая зрадзілася ў глыбінях народнага жыцця. Але з цягам часу мяняецца сам змест жыцця, а значыць, і прынятыя абрады не могуць быць простым паўторам старога. Іменна таму ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў праходзіўшай 8-10 снежня ў Мінску рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай ролі сацыялістычнай абраднасці ў камуністычным выхаванні працоўных, быў пошук такіх форм рытуалаў, якія б адпавядалі і народнаму духу, і сучаснаму ўзроўню культуры.

### „СУД АЛАІЗЫ“

110-годдзе з дня нараджэння Цёткі народны тэатр Маладзечанскага гарадскога Дома культуры адзначыў спектаклем „Суд Алаізы“, літаратурнай асновай якога стала драматычная паэма Валянціны Коўтун. Пастаноўка з поспехам ідзе ў Маладзечне. У жніўні прэм'ерны спектакль артыстаў-аматараў быў паказаны па Беларускім тэлебачанні. Нядаўна ж рэдакцыя літаратурнадраматычнага вяшчання рэспубліканскага радыё ажыццявіла фондавы запіс гэтай работы маладзечанцаў.

### ЯН ЧЫКВІН У „ЛіМе“

Не так даўно Ян Чыквін быў госцем Саюза пісьменнікаў Беларусі. Выступіў і ў „ЛіМе“. На пытанне, якое ўражанне зрабіла на яго гэтая паездка, „белавежац“ сказаў: — Самае найлепшае. Я чацвёрты раз у Мінску, але цяпер меў магчымасць пазнаёміцца з горадам больш шырока. На гэты раз ездзіў і па Беларусі. Уражвае ўсё: прырода, мясціны, пра якія я чытаў у кнігах. Асабліва людзі — жывыя творцы. Я бачыўся з Нілам Гілевічам, Васілём Зуёнкам, Анатолем Вярцінскім, Барысам Сачанкам, Адамам Мальдзісам, Кастусём Цвіркам. Вельмі цёпла быў прыняты ў Саюзе пісьменнікаў, у выдавецтвах „Мастацкая літаратура“ і „Юнацтва“. Уразіла, што чытаюць мае вершы.

Наш паэт гаварыў і аб вельмі цесных выдавецкіх магчымасцях „белавежцаў“ і выказаў пажаданне, каб Саюз пісьменнікаў Беларусі больш нашымі пісьменнікамі цікавіўся, даваў ім магчымасць друкавацца, выходзіць у больш шырокі свет.

Відаць, адказам на гэтае пажаданне з'яўляецца здымак, змешчаны ў газеце, на якім першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніл Гілевіч моцна ціsне руку нашаму паэту, а таксама змешчаная побач падборка Чыквінавых вершаў.

### У КАЛГАСЕ „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

Запаўненне другой чаргі новага жывёлагадоўчага комплексу распачалося ў калгасе „Савецкая Беларусь“ (Рэчыцкі раён). Сучаснае абсталяванне, механізацыя ўсіх працэсаў даюць магчымасць гадаваць жывёлу па прамысловай тэхналогіі, рацыянальна выкарыстоўваць кармы. З выхадам на праектную магутнасць тут штогод будзе адкормлівацца 24 тысячы жывёлін. На Гомельшчыне цяпер дзейнічае адзінаццаць буйных фабрык па вытворчасці свініны.




### „ВАЕННЫЯ МУСКУЛЫ“ АМЕРЫКІ

Сапраўды касмічнымі тэмпамі расце ваенны бюджэт ЗША: у 1969-70 фінансавым годзе ён склаў 80,3 млрд. долараў, у 1979-80 — 141,2 млрд. долараў, у 1984-85 — 292,9 млрд. долараў, у 1986 фінансавым годзе, які пачаўся 1 кастрычніка, ваенны бюджэт Пентагона дасягнуў ужо 323 млрд. долараў.

Пасля атамных бамбардзіровак Хірасімы і Нагасакі ў ЗША было выпушчана 60 тысяч ядзерных боегаловак 71 тыпу для 116 сістэм узбраенняў. На гэтыя мэты выдаткавана 750 млрд. долараў. Цяпер у ядзерным арсенале Вашынгтона ёсць 30 відаў такіх боегаловак, а агульны іх запас перавышае 26 тысяч адзінак.

Амерыканская адміністрацыя дае „зялёнае святло“ практычна ўсім асноўным праграмам Пентагона, перш за ўсё ў галіне стратэгічных наступальных сіл. У прыватнасці, у 1987 фінансавым годзе прадугледжваецца выдзяленне сродкаў на будаўніцтва яшчэ 12 міжкантынентальных ракет „МХ“ і ядзернай падводнай лодкі класа „Трайдэнт“. Санкцыянавана таксама серыйная вытворчасць новага пакалення варварскай хімічнай зброі так званых бінарных боеприпасаў. На працягу наступнага дзесяцігоддзя ЗША плануе выдаткаваць на гэтыя мэты 12,4 млрд. долараў.

У агульнай складанасці на прадпрыемствах кампаніі ваенна-прамысловага комплексу праектуюцца, распрацоўваюцца і ствараюцца 93 навейшыя віды зброі для магутнай мілітарысцкай машыны ЗША. Агульныя расходы на іх будаўніцтва ацэньваюцца велізарнай сумай — 768,6 млрд. долараў. На суме расходаў на мадэрнізацыю і пераўзбраенне сярод трох відаў узброеных сіл ЗША лідзіруюць ваенна-марскія сілы. На долю ВМС у праграме Пентагона адпушчана 375,5 млрд. долараў. Рэйганаўская адміністрацыя плануе давесці колькасць караблёў флота, які заўсёды выконваў ролю ўдарнага інтэрвенцыяніцкага звяна ў саставе ўзброеных сіл ЗША, да 600 баявых адзінак.

Белы дом раскручвае новы, вельмі небяспечны раунд гонкі ўзбраенняў у космасе і выдзяляе шчодрыя асігнаванні ВПК на ажыццяўленне праграмы „Зорных войнаў“ (САІ).

За перыяд з 1983 фінансавага года па чэрвень 1986 года 20 буйнейшых ваенных падрадчыкаў, якія працуюць на САІ, атрымалі кантракты на суму 4,2 млрд. долараў, гэта значыць ільвіную долю ўсіх падрадаў па праграме „зорных войнаў“. Іх спіс узначальваюць такія гіганты ваеннага бізнесу, як канцэрны „Локхід“ (580 млн. долараў) і „Боінг“ (374 млн. долараў).

Так нарошчваюцца „ваенныя мускулы“ Амерыкі.

У. М.



 

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## „МЫ БОЙКАЯ МОЛАДЗЬ, АРЛЫ МАЛАДЫЯ...“

Пад такім лозунгам адбываліся сёлета атрасіны беларускіх студэнтаў-першакурснікаў у Варшаве. Дарэчы, не быў гэта адзіны лозунг, які ўпрыгожваў залу клуба „Акцэнт“. Над аркестрам відаць быў аграмадны надпіс: „Атрасіны'86“, а на сценах красаваліся рэкламы нашых студэнцкіх і іншых беларускіх выданняў (напрыклад, „Нівы“).

У гэтым годзе першакурснікаў чакаў незвычайны, пякельны экзамен, між іншым, таму, што прымалі іх у студэнцтва, якое назвалі проста — пеклам. І праўда ж, адны кажуць, што гады вучобы — гэта рай, другія — што пекла. На гэты раз выбралі другое. Зразумела, гэта было беларускае пекла, так як і беларускія былі атрасіны, ды, праўду кажучы, так мела быць у сапраўднасці. Імпрэза пачалася ў восем вечара. Да гэтай пары зала запоўнілася амаль цалкам. Прыехалі нашы студэнты з Беластока, прадстаўнікі літоўцаў, украінцаў, старэйшыя сябры — былыя варшаўскія студэнты, нашы госці-прыяцелі, некалькі сяброў-палякаў. Усіх разам больш за 150-160 чалавек.

Валянцін Сельвесюк — студэнт гісторыі мастацтва Варшаўскага універсітэта, сардэчна прывітаў усіх, асабліва ж першакурснікаў. Мікола Ваўранюк, студэнт гісторыі, прачытаў прывітанні ад старшыні ГП БГКТ д-ра Аляксандра Баршчэўскага і віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР І. Навуменкі ды іншых. Затым усіх прысутных першакурснікаў выдзелілі ў асобную групу, каб потым браць кожнага на спецыяльныя выпрабаванні. А ў гэтым „пякельным экзамене“ трэба было выказацца і сваімі фізічнымі магчымасцямі, і пранікнёнасцю розуму, і, зразумела, выявіць свае веды па беларусазнаўству і валоданню роднай мовай. Першакурснікі з цяжкасцямі, але ўсё ж справіліся з пераадоленнем зусім не такіх ужо простых перашкод. Пасля гэтага два сторажы пекла, д'яблы вышэйшага рангу, Яўген Вапа — студэнт гісторыі Варшаўскага універсітэта і Аляксандр Максымюк — студэнт інфарматыкі, таго ж універсітэта, прышпілілі кожнаму адмысловыя „чартоўскія рожкі“. Затым нашы госці: Юрка Туронак, Янка Жамойцін, Фёдар Галёнка і Віктар Швед разам з галоўнакамандуючым „чортам“ Юркам Ляшчынскім, студэнтам геаграфіі Варшаўскага універсітэта бралі па чарзе кожнага першакурсніка на плед і доўга траслі. Потым асталося толькі прычасціцца „пякельнай стравай“ — зразумела, традыцыйнай беларускай „халодніцай“, якой кармілі новаатрасеных самыя старэйшыя і заслужаныя студэнты: Сяргей Мартыновіч з факультэта журналістыкі і Аліна Якімюк з факультэта геаграфіі, абое з Варшаўскага універсітэта. Пасля такой вясёлай, забаўнай часткі атрасін надыйшоў час на справы больш сур'ёзныя — на прысягу студэнтаў першага курса.



Вядуць варшаўскія атрасіны і дэкламуюць верш Алеся Барскага маладым студэнтам рэдактары „Прысутнасці“ В. Сельвесюк і М. Ваўранюк.



Дуэт д'яблаў (Я. Вапа і маленькі Максымюк).



Галерэя „мастадонтаў“ глядзіць на новае.

Словы прысягі чытаў Юрка Ляшчынскі, а новапрынятыя студэнты паўтаралі яе слова за словам. У прысязе, яны, між іншым, абавязаліся: здабываць веды і выкарыстоўваць іх для дабра беларускага народа, пазнаваць і шанаваць мінулае нашай Бацькаўшчыны, актыўна ўключыцца ў беларускі студэнцкі рух, ніколі сваімі паводзінамі і ўчынкамі не зганьбіць добрага імя беларускага студэнта.

Ці словы прысягі спадабаліся ўсім і ці запаланілі іх маладыя сэрцы, пакуль што цяжка адназначна сказаць. Напэўна многім астануцца яны надоўга ў памяці і многія, думаю, не зганьбяць добрага імя беларускага студэнта. Так прынамсі можна лічыць, хаця б па прыўзнятасці настрою і слёзах на вачах некаторых студэнтаў.

І так, закончылася афіцыйная частка атрасін у Варшаве. Потым пачалася танцавальная вечарына, якая працягвалася доўга-доўга, бо аж да самай раніцы. А тыя, хто хацеў паспяваць ці перакусіць, маглі пайсці ў другую залу, дзе знаходзіўся буфет.

Як заўсёды, пры арганізацыі ды правядзенні такіх мерапрыемстваў паўстаюць нейкія рэфлексіі, параўнанні з папярэднімі гадамі, тыя ці іншыя ўражанні ды выходзяць наверх недахопы. І пра гэта варта крыху сказаць. Усё ж такі яшчэ не ўсе ідучы на такое мерапрыемства хочуць памятаць, што гэта беларуская імпрэза, і такі яна мае характар. Забыліся пра сва-

(Працяг на стар. 6)

## ХРОНІКА

1. 17-19 кастрычніка мінулага года беларускія студэнты правялі чарговы рэйд „Падарожжа“, ужо сёмы. Гэтым разам наведалі старажытны Сураж. Такім чынам распачаўся цыкл „Ад Суража да Волгі“. Падчас рэйду былі спробы ўвядзення „сухога закону“, аднак студэнцкае грамадства поўнасцю супрацьставілася гэтай „шкоднай ідэі“.

2. 25 кастрычніка 1986 г. у клубе „Рыўера“ адбыўся агляд мастацкай творчасці студэнтаў нацыянальных меншасцей. З нашага боку была гатальная пляма. Шкада...

3. (Інфармацыя з часу, запоўненага клопатамі пры арганізацыі атрасін) Некаторыя студэнты Сельскагаспадарчай школы ў Варшаве забараняюць у сваіх інтэрнацкіх пакоях размаўляць па-свойму, маўляў, яшчэ хто пачуе... і што тады?

4. 22 лістапада 1986 г. на атрасіны студэнтаў-літоўцаў з'явілася бойкая 10-асабовая дэлегацыя нашых дзяўчат ды юнакоў. Мерапрыемства давяло да поўнага пагаднення між нашымі народамі, якія калісьці выступалі супольна пад адным знакам „Пагоні“.

5. Сказ з Сэрцайка: „Няхай бы яны так паспрабавалі!“ („Ніва“ № 47 ад 23 лістапада 86 г.) дужа ўзрушыў жаночае студэнцкае асяроддзе. Усе яны хочуць ведаць, дзе жыве і як можна знайсці кантакт з гэтым чалавекам, у якога, быццам бы, завялікія „габарыты“. Паводле неафіцыйных звестак, хутка будзе вядомы адрас нешчаслівай Басі. (Раім шукаць у найбольшай беларускай вёсцы ў Польшчы)

**З НОВЫМ ГОДАМ — З НОВЫМ ШЧАСЦЕМ!**

ПРЫСУТНАСЦЬ
студэнцкая старонка

Рэдагуе калегія:

Юрка Ляшчынскі. Мікола Ваўранюк Валянцін Сельвесюк, Яўген Вапа Лёнік Тарасэвіч.

# СЯМЯЦІЦКІ „ГОРТЭКС"

(Працяг са стар. 1)

гуляванай тэмпературай і павышанай колькасцю вугляроду, у якой яблыкі захоўваюцца амаль да вясны. Змяшчальнасць кожнай камеры — 330 тон.

Кіраўніцтва „Гортэкса" кладзе вялікі націск на якасць сваёй прадукцыі а гэта гарантуе попыт на яе за граніцай. У мінулым годзе 84 працэнты прадукцыі прадпрыемства было прададзена за граніцай. Палова экспарту ідзе ў заходнія краіны, а палова — у сацыялістычныя. З заходніх краін найбольшымі заказчыкамі з'яўляюцца ФРГ, Данія, Галандыя і вось ужо два гады Іспанія, а таксама скандынаўскія краіны. Нейкая частка канцэнтратаў з яблыкаў і трускалак трапляе на рынкі ЗША і Канады. Што датычыць экспарту ў сацыялістычныя краіны, то 90 працэнтаў прыпадае на Савецкі Саюз.

У нашай краіне пакуль што патрэбы на такія прадукты, якія дае сямяціцкі „Гортэкс", невялікія. Найбольш сямяціцкіх вырабаў ідзе ў ваяводствы: Катавіцкае, Лодзінскае, Варшаўскае, Гданьскае, ну і, вядома, Беластоцкае.

Так што на сёння найважнейшай справай з'яўляецца тут экспарт. Вартасць яго ў мінулым годзе склала суму 3 мільярды 50 мільёнаў злотых. Толькі чыстага даходу прадпрыемства атрымала звыш 150 мільёнаў злотых. За гэтыя грошы яно няспынна нешта будуе, мадэрнізуе, па-сучаснаму абсталёўвае.

Ужо звонку відаць, што прадпрыемства тут і сучаснае, і багатае. Як фабрычныя, так і сацыяльныя будынкі выглядаюць прыгожа. Ёсць тут ладны адміністрацыйны будынак з усімі патрэбнымі памяшканнямі і перш за ўсё са сталовай на тысячу абедаў у кожны рабочы дзень. Ёсць тут і медыцынская амбулаторыя з тэрапеўтам, гінеколагам і стаматолагам. Ёсць таксама і інтэрнат на 250 чалавек, прадшколле для 80 дзяцей і два жылыя блокі, у якіх жыве 66 сем'яў.

На прадпрыемстве дзейнічае аб'яднанне тэхнікаў і інжынераў харчовай прамысловасці, у рамках якой разгортваюць працу рацыяналізатары, якія толькі ў 1986 годзе прадставілі больш 30 рацыяналізатарскіх прапаноў. Да найважнейшых з іх залічаюцца праекты мадэрнізацыі халадзільных тунеляў і будова новага халадзільнага вузла. Падлічана, што калі рацпрапановы будуць ажыццёўлены, то першая прынясе прадпрыемству 44 млн. злотых, а другая — 11 млн. злотых. Да перадавых рацыяналізатараў прадпрыемства залічаюцца: Мікалай Кораль, Язэп Петручук, Анджэй Фарысяк, Віктар Эканомюк. Але самым таленавітым з'яўляецца халадзільны машыніст Уладзімір Борыла.

Вялікую ролю адыгрывае ў „Гортэксе" партыйная арганізацыя. Пры яе ўдзеле вырашаюцца ўсе праблемы — вялікія і малыя. Тут і павелічэнне рэнтабельнасці прадпрыемства, і ўкараненне другога этапа гаспадарчай рэформы, і давядзенне да канца разбудовы перапрацоўчай моцы прамысловых яблык, і наладжанне спраў наконт упакоўкі, тут і заробкі працаўнікоў, тут і клопаты пра прафсаюзную і спартыўную арганізацыю на прадпрыемстве. ПОП прысутнічае ва ўсіх дзялянках фабрычнага жыцця. Часткова адлюстравана яно ў хроніцы прадпрыемства. Ёсць тут здымкі са сходаў з вытворцамі, са сходаў рацыяналізатараў, на якіх уручаліся ўзнагароды. Відаць і спартыўныя розыгрышы ў розных відах спорту, а таксама грамадскі пачын пры пабудове пачатковай школы, рабочы фэстын, ёлка ў прадшколлі прадпрыемства і інш.

Цікавае гэтае прадпрыемства, і людзі ў ім цікавыя і працавітыя. Згодна з гаспадарчай рэформай прадпрыемства карыстаецца вялікімі правамі. Яно само вырашае аб цэнах і рэгулюе попыт на вырошчванне асобных культур.

І яшчэ адно. Прадпрыемству вельмі спатрэбілася б супрацоўніцтва з якім-небудзь падобным прадпрыемствам у Савецкім Саюзе.

**Міхась Хмялеўскі**

### ГАЙНАЎСКІ ПЛЕНУМ

У Гайнаўцы 15.XII.86 г. адбылося чарговае пасяджэнне праўлення аддзела БГКТ. Інфармацыю аб працы аддзела прадставіў старшыня Янка Якімюк. Справаздача была багатая, былі прадстаўлены таксама некаторыя недахопы ў працы. Як заўсёды, на сход прыбылі старшыні гурткоў, дзеячы, моцна звязаныя з БГКТ. У пасяджэнні прынялі ўдзел намеснік старшыні Галоўнага праўлення К. Майсеня, член Прэзідыума ГП А. Іванюк, дырэктар Гайнаўскага дома культуры М. Бушко. У дыскусіі прыняло ўдзел 11 асоб, яна была шчырая, пранікнёная хваляваннем за беларускія справы. Падкрэслівалася, што не ўсе гурткі БГКТ у Гайнаўцы актыўна працуюць, мала ў іх самаахвярнасці, не рэалізуюць яны пастаноў, якія самі прынялі і ўнеслі ў свае планы працы. Старшыня пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы праінфармаваў аб ходзе спраў у пабудове гэтага аб'екта. Сказаў, што гайнаўскія гурткі ў 1986 г. уплацілі 59.276 зл. на пабудову нашага музея. Усім ахвяравальнікам старшыня падзякаваў і адзначыў, што, аднак, яшчэ многа людзей невядома чаму адкладае ўплочванне грошай на музей, хаця яны маглі гэта зрабіць ужо даўно.

Дарагія землякі, дзе б вы сёння не пражывалі: ці ў Народнай Польшчы, ці далёка за яе межамі, не забывайце пра тое, што на дарагой усім нам Беласточчыне, у горадзе Гайнаўцы, будуецца захавальнік беларускай культуры — Беларускі музей.

**В.Б.**

(Працяг са стар. 2)

### НА МЯЖЫ

якім пры гэтым паслугоўваюцца, — памыі. Дыскусія і палеміка ў „Ніве" неабходныя і не павінна ў іх бракаваць крытыкі. Аднак са сказанага не вынікае, што таго, з кім мы палемізуем, трэба трактаваць як дурня, а сябе як генія. Памятайма, што разумныя людзі намнога часцей сумняваюцца, чым дурныя. Аднак сказанае, на шчасце, не адносіцца да нашых „самародкаў". Хацелася б пажадаць ім цікавых думак і публіцыстычных рэалізацый. Без іх „Ніва" была б намнога бяднейшай. Яны ўпрыгожваюць, узбагачаюць яе. Жадаю ім усім актыўнасці і здароўя.

**Алесь Барскі**

### БЕЛАРУСІКІ

1978

Borkowskij Wiktor, Smieszenije priamoj i koswiennoj rieczi w biełorusskich skazkach, „Slavia Orientalis" 1978, nr 2, s. 241—244.

Borkowski Jan, Sprawy mniejszości białoruskiej i ukraińskiej w miesięczniku „Droga" (1922—1937). „Z dziejów Stosunków Polsko-Radzieckich i Rozwoju Wspólnoty Państw Socjalistycznych" t. 17, 1978, s. 147—176.

Janiak Bronisława, Formy 3. Sg. i pl. praes. na *-ci* w białoruskiej gwarze okolic Sokółki. „Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej" t. 17, 1978, s. 253—254.

Łuczyc-Fiedarec I.I., Ab statusie pałanizmau u niekatorych biełaruskich haworkach. „Studia Rossica Posnaniensia" 1978, z. 10, s. 125—128.

Olechnowicz Mścisław, Tendencje rozwojowe akcentu białoruskiego, „Slavia Orientalis" 1978, nr 3, s. 317—325.

Strońska Anna, Czym się trudni mysz. (Białorusini z Białowieży), „Kontrasty" 1978, nr 7, s. 9—12, il.

Wasilewskij Nikołaj, Głagoły na *-izawać* w biełorusskom jazykie. „Slavia Orientalis" 1978, nr 3, s. 435—440.

**Р.С.**



centrum: Zapełni się!). Wbrew rachubom zawodnym naszych nieprzyjaciół, którzy, niestety, są nieobecni (ożywienie na prawicy), wbrew ich wszelkim obliczeniom, często bardzo uczonym, i ponad wszelkie oczekiwania nawet nielicznych bardzo uczonych przyjaciół, przekroczyliśmy progi Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej. Przekroczyliśmy te progi w ilości wprawdzie nie odpowiadającej liczebności naszej ludności białoruskiej, ale w ilości dostatecznej, by nie tylko przed Polską, ale przed całym światem złożyć świadectwo temu, że żyje naród białoruski (oklaski na ławach Klubu Białoruskiego i lewicy.)

Проста хочацца спытацца: хто з беларусаў, калі і дзе прамаўляў так у парламентах свету, як Тарашкевіч? Адказ ясны — ніхто, нідзе і ніколі. Сеймавыя прамовы Браніслава Тарашкевіча налічваюць каля 250 старонак машынапісу. Усе яны аднолькава прынцыпіяльныя, палымяныя і непадкупныя. Колькі разоў паслы з правіцы і з цэнтра заглушалі Тарашкевіча свістамі, тупатам ног, крыкамі! Колькі раз спыняў яго маршалак сейма! Аднак Браніслаў Тарашкевіч паслядоўна ішоў вызначаным курсам. А гэты курс вёў у бок асветы для беларусаў, зямлі для беларусаў, самаўправы для беларусаў, свабоды для беларусаў, свабоднага выбару гістарычнага лёсу для беларусаў.

Браніслаў Тарашкевіч не быў чалавекам з мармуру. Безупынна працаваў над самім сабою. Змяняўся. З пазіцый ліберальных ішоў у бок найбольш левых арыентацый, усё бліжэй падыходзіў да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, спалучаючыся з ёю і целам і душою.

Дваццаць пятага студзеня 1927 года маршалак сейма зачытвае перад пасламі ліст міністра ўнутраных спраў наступнага зместу:

„Mam zaszczyt zawiadomić pana marszałka, że posłowie Piotr Miotła i Feliks Hołowacz zostali zatrzymani, pierwszy w Głębokiem, drugi — Wołożynie na fakcie dokonania zbrodniczej działalności, skierowanej przeciwko bezpieczeństwu Państwa i prowadzonej pod dyrektywą obcych czynników za pieniądze idące z zagranicy. Zatrzymanie ich nastąpiło na rozkaz podprokuratora przy sądzie apelacyjnym w Wilnie, wydany łącznie z nakazem zatrzymania posłów Taraszkiewicza, Wołoszyna i Rak-Michajłowskiego i było niezbędne dla zabezpieczenia wymiaru sprawiedliwości oraz unieszkodliwienia skutków przestępstwa. Minister A. Meysztowicz".

Такім чынам Б. Тарашкевіч быў арыштаваны ў студзені 1927 года, а ў маі 1928 года прыгавораны Віленскім акруговым судом да 12 гадоў турмы. Турэмнае зняволенне не зламала духа Б. Тарашкевіча. Седзячы ў астрозе, перапрацаваў „Беларускую граматыку", пераклаў на беларускую мову „Пана Тадэуша" і „Іліяду" Гамера. Пісаў палітычныя лістоўкі і адозвы. У 1930 годзе прэзідэнт Рэчыпаспалітай спецыяльным амністыйным актам вызваліў Б. Тарашкевіча з турмы. Б. Тарашкевіч зноў акунаецца ў палітычную дзейнасць, звязаную з Камуністычнай партыяй Заходняй Беларусі. У пачатку 1931 года зноў быў арыштаваны і засуджаны ў канцы 1932 года на восем гадоў турмы.

У верасні 1933 года на падставе спецыяльнага пагаднення паміж урадам Польшчы і Савецкага Саюза, якое датычылася абмену палітычных дзеячоў, засуджаных у Польшчы і СССР, быў абменены на вядомага беларускага драматурга Францішка Аляхновіча. Ф. Аляхновіч быў засуджаны ў СССР пад закідам дзейнасці ў карысць польскай разведкі. Апынуўшыся ў БССР, Б. Тарашкевіч выконваў рад адказных палітычных і навуковых функцый.

На жаль, у гады культу асобы быў арыштаваны і загінуў. Найбольшым парадоксам з'яўляецца тое, што загінуў не з рук той сістэмы, з якою змагаўся, а той, за якую змагаўся.

Як вядома, у СССР рэпрэсійныя практыкі, звязаныя з культам асобы, былі востра асуджаны на XX з'ездзе КПСС, а ахвяры рэпрэсій рэабілітаваны. Дзякуючы гэтаму Браніслаў Тарашкевіч вярнуўся ў пантэон найвыдатнейшых сыноў беларускага народа.

**А. Барщчэўскі**

(Працяг са стар. 4)




Хто ж гэта можа ведаць, за што ён даў той жанчыне аж палову цяляці? Калі ён даў за тое, пра што можна падумаць, то і жанчыну тую няма за што хваліць. Якая ж яе годнасць і сумленне? Яна ж, калі так, то памяняла сябе за цяляціну!

Аўрора пісала яшчэ і так: Барскі — гэта мой Бог, бо мне памог. А ў чым ён табе, ну, памог, дазволь запытаць? А хто яго ведае, у чым, аднак мужчыны ёсць далікатнейшыя за бабаў, і таму не трэба мне дамагацца аж гэтакай шчырасці.

Было пісана: мужчыне з Бандароў перашкодзілі хлопцы каля маладой дзяўчыны. А можа быць, усё было так, што і не перашкодзілі? У газеце вінавацінца мужчына, а якая цана маладой дзяўчыне? Было пісана: жонка элеганціка кінула яго. А за што яна кінула? Мы, карэспандэнты, не можам жа ведаць, хто на каго нагу закінуў, канкрэтна: хто, каго і за што кінуў?! На разводах абое рабое, і жонка і муж сведкаў для сваёй праўды прывозяць на суд. А суд гэта і суддзя, і лаўнікі, і адвакаты часта, ну, і публіка таксама не за сцяною сядзіць ды слухае і рэагуе, што не ёсць так зусім без значэння. Часам суд засудзіць несправядліва, бывае. І суд памыляецца, іншы раз і моцна. Нават суд!

**Ф. Хлябіч**

## І Ў ЦПНе БЫВАЕ ПРЫЕМНА

Станцыя ЦПН знаходзіцца за Бельскам, ля дарогі на Бранск. Робіць тут сем маладых мужчын, якія працуюць у дзве змены. За адзін дзень бывае тут і да дзвюх тысяч машын.

Кіруе ЦПНам Дзімітр Сліўка. Работы, кажа, па горла, адных квітоў колькі напішашся ад ранку да вечара. Рух на бензін вялікі — за суткі прадаецца ў гэтым ЦПНе да васьмі тысяч літраў „жоўтай“ і больш трох тысяч звычайнай, ды дванаццаць тысяч літраў паліва для трактароў. Можна купіць на месцы і некаторыя часткі да малога „фіята“, трохі і да вялікага; прадаецца алей, імпартаваны з Заходняй Еўропы. Найгорш маюцца справы з продажам гаручага алею, яго хутка выкупляюць.

Маладым рабочым, як гэта маладым, цяжка: трэба быць тут на службе ад шасці гадзін раніцы да васьмі вечара. Працуюць яны добра, культурныя з іх і ўслагадныя хлопцы.

Каля гэтага ЦПНа ёсць рампа, на якую можна ўехаць сваім самаходам і паглядзець, што ў ім псуецца, наладзіць. Рампа тая пад дахам, так што дождж і ўсякая непагадзь не так надакучаюць, як на адкрытым месцы.

Я цяпер часта заязджаю ў гэты ЦПН, там прыемны і людскі настрой, хоць і рух, як усюды.

**Андрэй Гаўрылюк**



(Працяг са стар. 4)

нам працы і ўвайшоў у навуку ўсіх славянскіх народаў.

Нечаканасцю для мяне было выступленне праф. Томаса Бэрда з Нью-Йорка на тэму „Значэнне „Нашай нівы“ ў фармаванні нацыянальнай свядомасці беларусаў“. Слухаючы яго выступленне, нарадзілася пытанне, як магло стацца, што праф. Бэрд, па нацыянальнасці уэльсец з Паўночнай Ірландыі, зараз амерыканец, змог дасканала авалодаць беларускай мовай (на гэтай мове ён рабіў даклад, а на англійскай яго толькі закончыў), а вучоныя родам з Беласточчыны, часта беларусы, навучыліся толькі перапрашаць слухачоў за тое, што яе не ведаюць!

Пасля перапынку сесію вёў д-р Аляксандр Баршчэўскі. Першым выступіў праф. Тэлесфар Позняк з Вроцлаўскага універсітэта з тэмай „Міф зямлі ў беларускай прозе“. І тут зглыбленне тэмы абумоўлівала дасканалая знаёмасць беларускай мовы. Апошнім у першы дзень сесіі выступіў дац. Міхал Кандрацюк, працаўнік Польскай акадэміі навук, з дакладам на тэму: „Анамастычныя доследы ў Беластоцкім рэгіёне“.

У дыскусіі выступілі: д-р Ядвіга Глушкоўская (Варшава) — на тэму дасягненняў і будучых напрамкаў працы Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта; праф. А. Барташэвіч (Варшава) — аб патрэбе пашырэння супрацоўніцтва Кафедры з навуковымі ўстановамі БССР; др Ю. Туронак (Варшава) — аб уздзеянні загадаў Міністэрства асветы і выхавання на навучанне беларускай мовы ў школах Беласточчыны; д-р Уладзімір Юзвюк (Беласток) — на тэму ліку насельніцтва беларускай нацыянальнай меншасці ў Беластоцкім ваяводстве.




На другі дзень сесію вёў праф. Аркадзь Жураўскі. З дакладамі выступілі: праф. Мар'ян Юркоўскі (Варшава) — „Санет Адама Міцкевіча „Бахчысарай уначы“ па-беларуску і па-ўкраінску“; д-р Анатоль Аксамітаў (Мінск) — на тэму некаторых устойлівых выразаў беларускага фальклору; дацэнт Флар'ян Няўважны (Варшава) — „Пошукі ў сучаснай беларускай паэзіі“ на прыкладзе пісьменнікаў з аб'яднання „Белавежа“ пры ГП БГКТ; д-р Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) — „Фальклор усходняй Беласточчыны ў доследах Кафедры беларускай філалогіі“.

У дыскусіі выступілі: дзейнасць БГКТ прадставіў сакратар ГП мгр Віталій Луба, аб працы літаб'яднання „Белавежа“ і яго дасягненнях расказаў мгр Віктар Швед, аб супрацоўніцтве „Нівы“ з Кафедрай гаварыў намеснік галоўнага рэдактара нашага тыднёвіка мгр Мікалай Гайдук, з развіццём беларускага студэнцкага руху ў Польшчы пазнаёміў студэнт Валянцін Сельвесюк. Затым праф. Лешэк Асоўскі расказаў пра свае беларусазнаўчыя зацікаўленні і прыгадаў уласныя публікацыі ў гэтай галіне на польскай, рускай, балгарскай, сербахарвацкай і іншых мовах.

Сесію закрыў праф А. Барташэвіч, які падкрэсліў яе высокі навуковы ўзровень, выклікае зацікаўленне і далейшыя вялікія магчымасці развіцця беларусазнаўства ў Народнай Польшчы.

Вечарам удзельнікам сесіі і варшаўскай грамадскасці быў арганізаваны ў Доме савецкай навукі і культуры ў Варшаве канцэрт бельскага калектыву „Васілёчкі“ і самадзейнага студэнцкага калектыву Варшаўскага універсітэта „Варшавянка“. На канцэрце прысутнічала каля 200 асоб, якія вельмі горача прынялі ўсю цікавую і багатую праграму.

**У. Юзвюк**

# „МЫ БОЙКАЯ МОЛАДЗЬ, АРЛЫ МАЛАДЫЯ...“



Скарасная яешня — неад'емны атрыбут студэнцкага жыцця.

(Працяг са стар. 3)

абавязкі музыкі, якіх спецыяльна запрасілі з Беласточчыны, каб яны гралі беларускія мелодыі. З добрага боку не паказалі сябе і студэнты з ХТА, тыя ж самыя, што ў свой час адмовіліся спяваць у царкве па-беларуску. Ну і самі арганізатары, асабліва некаторыя студэнты з Сельскагаспадарчай акадэміі акрамя, бадай, аднаго Косці Стэпанюка, не праявілі занадта многа адказнасці, абмяжоўваючы свой удзел выключна да гульні. А гэтак нельга, так прынамсі мне, як аднаму з арганізатараў і ўдзельнікаў, здаецца.

**Студэнт з Варшавы**

## САКРАТ ЯНОВІЧ

# СКРОЎБА

Па тым, як маўчаў гэты спайманец няўрымслівы, Скроўба разгадваў яго вопытнасць. „Калі яна ёсць у яго, дык няблага ён пачынае, язык за зубамі трымаючы, бо ж хоць і расказаў бы ўсянютка праўдзіва адразу мне, то і так галяком мучыць прывяжуць да лавы, падкову, у вуголлі распаленую, да заду прыкладуць яму, бакі галавешкаю падсмаляць. Прызнаецца ён дачыста, накшталт наванітаў пасляперапойных!“

У рассвітанак пагрэліся яны на паляне Асовая Яма, сухаголля дзеля бяздымнасці агню Скроўба назнаходзіў. Да полымя сабе пагаманілі па звычцы старадаўняй, пра лясунскіх дзеваў-лоймаў, і тады ж у дзецюку гэтым — мардатым, як убачылася тое ў бліскаў, — штось як бы трэснула. Сказаў ён няспытаны:

— Чуў, казалі нашы: Ягайла-кароль у Крынкі і далей, у Літву, наведаецца, ага... Гаспадар вялікі Кейстутовіч упрасіў яго ці што?

Скроўба знямеў, але ж спакойна адказаў яму:

— Брэшаш ды годзе.

— Каб я так здароў быў, калі няпраўду перагаворваю вам!

— Здароўем ты не падкідайся вельмі, чуеш. Яно спатрэбіцца табе моцна... — І злагоднеў да яго: — А чаго ж знадобілася вам хэўрай цэлаю ў тыя Крынкі, га? Караля сустрачаць ці як?

— Я ж не казаў, што ў Крынкі мы!... Я казаў ужо: з бабрамі...

— Бач ты яго, як ён гэта на мяне разявіўся!? — рагатнуў Скроўба знарок гідліва. — Ну, уставай, хопіць балбатаць, у замку, во, пад бізунамі нашчабечашся, гэ-гэ-гэ! Хвост твой на кілбаску прыздобяць, ніхто не стрымаў гэткіх прыемнасцяў... Ад татараў, брацец, навука такая пайшла па Русі, — а ўсё назіркам паводзіў сябе рыскун: „За дзень да вечара раздумае, сабака. Цісні яго, Скроўбчык, пакуль не пацвярдзеў ён, бы тое мяса ад пасолу!“

Скроўбу і прыкра было неяк ад таго, што „язык“ размоўлівым выдаўся. Палахлівец на катаванні наверашчыць усялякага: што ведае і няведае. Паверыць і не паверыць яму, скажуць: якое ты нам, Скроўба, дзяўчо звалок плятунскае? Адкажа ім: хацелі б вы такога, які боляў шмат перанясе, каб ману, выстагнаную ім, за праўду праўдзюткую ўспрынялі? Будуць яны гаварыць: ну-ну, гэткіх на свеце нягуста пасеяна, ну, не ўдачнілася табе, бывае, але дзякуем за тое, што і ёсць... не злуй жа на гаварэнне нашае.

Вятрыска са снегам вывальваўся клубамі з прагалаў, вочы залепліваючы. Ад адлігоцця ныццё па касцях распаўзалася, млеўкасць адольвала, калі павіднела канечна.

# ТАМ, ДЗЕ ПАВЕТРА НЕ ВІДАЦЬ

У вёску Залукі (гміна Гарадок), недалёка ад Беластока, мы трапілі ў сувязі з вельмі важным фактам: маладая настаўніца, магістр, абсальвент Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Лена Радзіванюк (нядаўненька выйшла замуж і змяніла прозвішча на Добаш) ад новага школьнага года арганізавала пры падтрымцы дырэкцыі і пачала навучанне малых дзетак другога класа беларускай мове. Лена — чалавек, які ўсёй сваёй істотай аддадзены беларускай справе, а родам яна з Трасцянкі і была вучаніцай заслужанай настаўніцы Лены Тапалянскай.

Адраджэнне навучання беларускай мовы ў школе ў Залуках — з'ява станоўчая і для дырэкцыі школы і для вёскі, а дакладней усіх вёсак, з якіх дзеці вучацца ў Залуках, а гэта апрача саміх Залук, яшчэ — Ліповы Мост, Боркі, Навасёлкі, Пясчанікі і Радунін.

Шкада толькі, што не адразу была ўведзена беларуская мова і ў трэцім і чацвертым класах, ды і ў старэйшых. Ведаючы, аднак, прыхільнасць дырэктара і яго актыўнасць, яго асабістую заангажаванасць і кваліфікацыі па гэтаму прадмету (быў ён на курсах беларускай мовы ў Мінску), думаецца, што ў Залуках разгорнецца шырокая праца з бацькамі і дзецьмі, і навучанне роднай мовы будзе пашырацца.

А на гэты раз і дзеці, і настаўніцкі калектыў прыняў нас вельмі гасцінна і сардэчна. Школа ў Залуках захавала свой вядучы і высокі аўтарытэт у насельніцтва. Думаю, што гэта і таму, што шэсць з васьмі настаўнікаў школы жывуць на месцы, у вёсцы, разам з тутэйшымі людзьмі. Не толькі цікавяцца праблемамі вёскі праз дзяцей, а якраз жывуць поўняй жыцця вёскі, прымаюць непасрэдны ўдзел у штодзённых яе справах.

Ліля Чэпель — настаўніца-русіст, чалавек тутэйшага паходжання, свядомы сваёй беларускасці, гаворыць з намі, так як гаворыцца ў Залуках, а значыць беларускай мовай амаль літаратурнай. „Жывем (гэта аб настаўніках) як нармальныя жыхары, не адрозніваемся, жывем праблемамі людзей, калі што ў вёсцы трэба, людзі прыходзяць у школу, пытаюцца, раяцца. Школа ў нас заўсёды адкрыта, і мы як роўны з роўным, як у сям'і. Разам зрабілі вуліцу ў Залуках, пабудавалі прыпынак для ПКСу. Моладзь на канікулах працавала пры гэтым. Бацькі малявалі школу — кожная вёска адзін клас. Залукі, дзе найбольш дзяцей, — клас і калідор. І ўсё згодна, разам, як для сябе".

Ліля — сакратар прапаганды гміннага камітэта ПАРП у Гарадку і сакратар падставовай партыйнай арганізацыі ў сваёй вёсцы, яшчэ і апякун ПОП у Валілах. Дырэктар жа Францішак Апановіч апякуецца ПОП у Навасёлках. Тут уключаецца настаўніца Геня Грушэўская, якая якраз жыве ў суседніх Навасёлках. Хваліць палажэнне вёскі сярод лясоў над ракой Супраслю, запрашае да сябе — яе муж вядомы майстар-сталяр, мае сваю сталярню. Сама яна з Шастакова пад Гайнаўкай і абоім ім рысавалася някепская перспектыва жыцця і працы ў Гайнаўцы, але, кажа Геня, мужа цягнула ў Навасёлкі, ён не ўяўляў сабе жыцця без працы з дрэвам. І, прыехаўшы ў родную вёску, адкрыў тут варштат, а ў свабодны час малюе мясцовыя пейзажы. Грушэўскія — прадстаўнікі новага пакалення ў вёсцы і можа ад іх пачнецца новы перыяд у гісторыі гэтай маляўнічай мясцовасці, бо цяпер вёска вельмі пастарэла. Геня Грушэўская сутыкнулася тут з дзіўнай для сябе з'явай, што „сярэдні ўзрост людзей у Навасёлках каля 70 гадоў". Яна бачыць магчымасці турыстычнага выкарыстання гэтага закутка.

Даўжэй мы змаглі гаварыць з Мар'яннай Апановіч, жонкай дырэктара школы. Яна прыехала сюды працаваць маладым дзяўчом аж з Келецкага ваяводства. Успамінае, што, не разумеючы нічога з гаворкі ў вёсцы, плакала, схаваўшыся ў куток. Прыжылася, навучылася і, выйшаўшы замуж за мясцовага хлопца, свой лёс звязала з вёскай. Апановічы тут жа ў Залуках пабудавалі дом і жывуць працавіта і актыўна. М. Апановіч — актыўны дзеяч гуртка вясковых гаспадынь, а муж апрача дырэктарства — член даўно існуючай у вёсцы процiпажарнай стражы.

І яшчэ хочацца расказаць пра адно цікавае здарэнне. Шмат гадоў таму назад наладзіла сувязь школа з капальняй вугалю ў Вадзіславе Шлёнскім. Адтуль прыязджаюць у Залукі шахцёры ў грыбы. Адзін з іх, Рудольф Зачык, прыехаў неяк з малым сынам. Хлопчык паразглядаўся, паразглядаўся кругом і здзіўлена адазваўся да бацькі: „Тата, тут паветра не відаць". (!)

**Вера Леўчук**

### НА РАДАСЦЬ ДЗЕЦЯМ

На радасць дзецям і настаўнікам фізкультуры ў пачатку снежня мінулага года адбылося ў школе ў Нараўцы ўрачыстае адкрыццё новай спартыўнай залы, а дакладней гаворачы, дзвюх залаў: меншай — для малодшых класаў і большай — для старэйшых. Яны знаходзяцца над кацельнай, пабудаванай год назад. Такім чынам закончылася тут пабудова цэлага комплекса будынкаў: кацельнай і вялікай спортзалы. Увесь аб'ект каштаваў каля 9 млн. злотых. Значны ўклад унеслі бацькі, памагаючы вазіць будаўнічыя матэрыялы. Дробныя работы выконвалі таксама вучні старэйшых класаў і настаўнікі.

Цяпер у школе ў Нараўцы дасканалыя варункі для заняткаў па фізкультуры.

**М. В.**

— Го-го-оо-ооо, як табе тамака!? — загудзеў Скроўба. „Нам разлогінкаю стока Бельшчанага ісці б, а не ў міждрэўі церціся, бы чэрці тыя балотныя. Чаго добрага, у блудава ўб'емся." — Го-го, ты стаптаўся, мабыць...

Мазаўшанец як стаў, так і прыхіліўся да елкі, усё роўна што да падцішша прыпаўшы ў віхурыску, зняпацку шугануўшую. Ветрагонік жа супыніўся, як укопаны, каніска разумлівы.

— Што, зноўку сабе пабяседзім? — падыйшоў да яго Скроўба, перш Ветрагоніка радзюжкаю накрыўшы і з сябе павеіны паабтрэсваўшы. — Надумаўся, га?

Той на рыскуна зірнуў, як трус чырвонавокі са стуленымі вушамі. І не адказаў ён нічога, але адчувалася ўжо, што загаворыць усё ж. Скроўба рукі сабе ў кішэні засунуў і ўсё зроку свайго з яго не зводзіў, вырачыўшыся, бы вуж на жабу.

— Як бяда ў хаце, то аднае мала. Трэба, каб была і другая...

— Ну! — рыскун пад нецярплівіка падшываўся, бо так трэбна было. „Перад такімі дурнеюць мякуны", — адзначыў ён сам сабе.

— ...З чалавекам адным слугове кашталяна візненскага ўзбачыцца вінны былі, а пэўнасці не было, ці той ён шчыры ёсць і ці не падманнік або падвойны які...

— Важны хто гэта?

— Сказаць — не скажу, бо ў заставу паслалі былі мяне, погудам пугачоўскім меўся я пра небяспечнасць папярэджваць, калі згледзеў бы каго, як з дарогі ў Гарадок зварочвае...

— Ты мне тут не выплятай плецені, васпане, што не бачыў ніяк чалавека змоўнага таго!

У кончык языка ўкусіўся чужак, заядласцю ад яго дыхнула неяк выбухна. Скроўбе ажно раўсці напірала ад хвацкасці цяпер! Ён не абмыляўся ўжо ж такі бессумніўна ў тым, што на слядок дзеі страшнейшае напаў нязгляднa, як на тое нейкае дзяўчынё, што выпадкам улавіўшы ў ягадніках чарнічных і з кашом поўным, не счэкваючы пакаціўшы ды высмаліўшы сабе беспакарана да ўпаду самюткага віскуню выкрутную, да цемначы ўвачччу, яе выенкі непадатлівасці выслухоўваючы з саладэчнасцю. — Я быць у табе, а ты, прыгажуня казаць: я билася з табою, га-га-га...

— Важнеча запраўдная стане хіба ж збруджвацца зносінамі з гэтакімі, як мы? — пабараніўся спайманец зблажэлы.

І Скроўбу нешта благое зацiснула, і лыпіў ён, вызнаючы, колькі хітруннага ў таго і даверлівасці лопушнае. Зрыўная дзьмеча мяцельная — відаць, ад заполяў астраўскіх — скуголіла, заносіла свет беласцю сыротнаю.

Струджанасць даймала ўсясільней, чымсьці ў дасвецце.

— Ніць ад клубка адкусваеш, уюн ты, — рыскун вышчарыўся на хлопца. — Лічыш так, што

(Працяг на стар. 8)

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Nawiązując do notatki prasowej, jaka ukazała się na łamach Waszego tygodnika (nr 45 z 1986 r., tytuł „Jak ślimak"), dotyczącej budowy oczyszczalni ścieków w Bielsku Podlaskim informuję co następuje:

— inwestorem przedmiotowego zadania jest Urząd Wojewódzki w Białymstoku — Wydział Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej (inwestor zastępczy Wojewódzka Dyrekcja Inwestycji w Białymstoku);

— generalnym wykonawcą robót jest Przedsiębiorstwo Robót Inżynieryjnych Budownictwa Przemysłowego w Białymstoku;

— użytkownikiem oczyszczalni i inwestycji jej towarzyszących jest Wojewódzkie Przedsiębiorstwo Wodociągów i Kanalizacji w Białymstoku.

Budowa miejskiej oczyszczalni ścieków w Bielsku Podlaskim została rozpoczęta w 1976 roku z terminem zakończenia w 1981 roku, łącznie z przepompownią ścieków przy ul. Dubicze oraz kanałem sanitarnym „A". Wstępnie ustalona wartość kosztorysowa zadania wynosiła 260 mln zł. Obecnie ponad 500 mln zł. Niedobory środków inwestycyjnych jak też słabe zaangażowanie wykonawców spowodowało wydłużenie cyklu inwestycyjnego aż do 10 lat. Wielkość limitów finansowych przyznawanych w latach 70-tych była niewielką, jak też częstokroć nie była wykorzystywana przez wykonawcę. Jednocześnie w 1982 roku podjęto decyzję o wstrzymaniu realizacji w/w inwestycji. W wyniku licznych różnokierunkowych interwencji budowę wznowiono. Istotnym czynnikiem wydłużającym cykl budowy było nadanie priorytetu równolegle realizowanej oczyszczalni ścieków w Siemiatyczach. Aktualnie obiekt znajduje się w trakcie rozruchu biologicznego, z terminem jego zakończenia w br. Do roku 1990 zakłada się na terenie miasta, dla prawidłowego funkcjonowania oczyszczalni, wybudowanie niezbędnej sieci kolektorów sanitarnych m.in. w ulicach Mickiewicza, Żwirki i Wigury, Nowotki, Waryńskiego, Widowskiej, Dzierżyńskiego, Nowoprojektowanej (przedłużenie ul. Waszkiewicza) itd. Pozwoli to na częściowe uporządkowanie gospodarki ściekowej w naszym mieście. Nadmienić należy, że począwszy od 1984 roku odbywały się comiesięczne narady koordynacyjne na terenie budowy ze wszystkimi jednostkami odpowiedzialnymi za terminową realizację obiektów oczyszczalni. Organizatorem ich był tut. Urząd Miejski. W wyniku tych narad nastąpił znaczny postęp robót.

Jednocześnie informuję, iż stwierdzenie, że tempo budowy oczyszczalni uzależnia wzrost substancji mieszkaniowej w mieście nie jest w pełni zasadne. Głównym czynnikiem powodującym zmniejszenie się rozmiarów budownictwa mieszkaniowego w warunkach miasta jest:

— brak scentralizowanego źródła ciepła, którego realizację zakłada się w latach 1987—89,

— niedostateczna wielkość terenów uzbrojonych, przeznaczonych pod realizację budownictwa mieszkaniowego wielorodzinnego. W 1986 r. przystąpiono do wstępnych prac związanych z rozpoczęciem budowy nowego ujęcia wodociągowego przy ul. Brańskiej, którego zakończenie realizacji przewiduje się na 1990 rok. Celem zwiększenia już zaplanowanych efektów w zakresie budownictwa mieszkaniowego ze strony miasta podjęte zostały działania w kierunku zabudowy terenów plombowych na istniejących osiedlach mieszkaniowych. Stworzy to możliwość uzyskania ok. 300 mieszkań w końcowych latach pięciolatki poza planem. Nadmieniam również, że bieżąca pięciolatka ma za zadanie uporządkowanie spraw z zakresu gospodarki komunalnej, dla stworzenia warunków rozwoju budownictwa mieszkaniowego w latach dalszych.

Naczelnik miasta Bielsk Podlaski
**mgr Leoncjusz Parafiniuk**
15 grudnia 1986 r.

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Дзеці трэцяга, чацвертага, пятага і шостага класаў разам са сваёй настаўніцай Марыяй Кужалеўскай на сустрэчы з „Зоркай“.

## Пачалі вывучаць беларускую мову

У гэтым навучальным годзе зноў, пасля шматгадовага перапынку, было ўведзена навучанне беларускай мовы ў пачатковай школе ў Шымках, што каля Ялоўкі.

На пачатак на ўрок беларускай мовы ходзяць 23 вучні, галоўным чынам з малодшых класаў, але і пяць чалавек — з шостага класа. Настаўніца беларускай мовы Марыя Кужалеўская асабліва хваліць актыўнасць дзяўчатак-шасцікласніц. Яны па ўсіх прадметах выдатніцы, дык і беларускую мову ведаюць добра і ахвотна ўдзельнічаюць ва ўсіх мерапрыемствах.

Кожны ўрок беларускай мовы ва ўсіх класах пачынаецца песняй „Люблю наш край“. Выконваюцца дзве першыя звароткі, а потым пачынаюцца звычайныя заняткі. Дзеці ахвотна чытаюць беларускія кніжкі, часопісы, вывучаюць вершы і песні. Заўсёды слухаюць беларускія перадачы па радыё, а песні награваюць на касеты.

Таму на нашай сустрэчы ў школе, якая адбылася ў канцы мінулага года, усе дзеці ўжо ўмелі спяваць шмат беларускіх песень, а маленькая Аня Болтрык, трэцякласніца, заспявала адна, сола, без ніякай спецыяльнай падрыхтоўкі ад пачатку да канца ўсю „Беларусачку“. Шасцікласніца Аня Міруць падзялілася сваімі ўражаннямі з нядаўна прачытанай кніжкі Ядвігі Біганскай аб Далёкай Поўначы, аб Чукотцы. Ані вельмі спадабалася гэтая кніжка, і яна не магла не падзяліцца яшчэ свежымі перажываннямі з прачытанага.

Наогул, у школе ў Шымках вучыцца больш дзвюх сотень дзяцей. 163 даязджаюць з суседніх вёсак — з Ялоўкі, Кандратак, Кітурыкаў, Цісоўкі, Залешан, Луплянкі, Раманава, Бандароў, Рыбакоў, Юшкавага Груда, Бахуроў, Верхняй і Ніжняй Тайніцы, Рудні. Большасць вёсак беларусамоўныя. І толькі клопатамі з даездам можна тлумачыць тое, што так мала дзяцей пачало вывучаць родную мову.

Урокі беларускай мовы пераважна адбываюцца на апошнім, восьмым уроку, тады, калі дзеці ўжо моцна змучаныя, а частка з іх ужо ад'язджае дадому.

Усе малодшыя дзеці да чацвертага класа ўключна ўвесь свой вольны ад заняткаў час праводзяць у школьнай святліцы. Апякуецца імі шматгадовая і вопытная настаўніца Ванда Раманоўская. Святліца адкрыта ўжо ад гадзіны 6[30]. І ўжо з самай раніцы, у каго няма ўрокаў, дзеці могуць глядзець па каляровым тэлевізары казкі для дзяцей (па гродзенскай праграме), чытаць, маляваць, паўтараць урокі. Усе даязджаючыя дзеці атрымліваюць у школе нармальны абед.

Умовы навучання ў шымкаўскай школе вельмі добрыя. Школа вялікая, прасторная, светлая, чыстая. І настаўнікі вельмі сардэчныя, з багатымі ведамі, адданыя дзецям. Стараюцца, каб час пабыўкі дзіцяці ў школе быў выкарыстаны прыемна і з карысцю. У школе працуюць розныя школьныя арганізацыі, а асабліва актыўна — гарцэрства.

Маю надзею, што з часам і беларуская мова знойдзе ў гэтай школе належнае ёй трывалае месца.

Яніна Чэрнякевіч
Фота аўтара



Першакласнікі са святліцы — Кася Вайцяхоўская з Ялоўкі, Аня Лукша з Цісоўкі, Віялета Кардаш з хут. Навасады, Кася Хлябіч з Залешан і Юрка Цівунчык з Раманава.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Віктар Шымук

### ТАНІНА КНІЖКА

Прачытай мне, мама,
Калі ласка,
Пра лісіцу
З гэтай кніжкі казку, —

Просіць маму
Танечка-малышка
І дае матулі
Ў рукі кніжку.

— Ой, дачушка,
Я ж табе чытала
Пра лісіцу гэтую
Нямала.

Таня просіць:
— Мама, калі ласка,
Прачытай яшчэ мне
Гэту казку..

— Добра, добра, —
Кажа ёй матуля.
Да сябе дачушку
Яна туліць.

— Ну, дык слухай
Ты, мая малышка. —
Зноў чытае Тані
Тую кніжку:

— У лесе, недалёка
І не блізка,
У нары жыла
Лісіца-ліска.

Дзетак-лісянятак
Гадавала.
У лясных калысках
Калыхала.

Голасам танюткім
Ім спявала.
Добрага здароўечка
Жадала:

— Вы расціце, дзеткі,
Падрастайце,
Маме добра
Ўсюды памагайце.

...За акном —
Зіма ды завіруха.
Ах, як добра
Тані казку слухаць!

Марыць падрасці
Хутчэй малышка,
Каб самой чытаць
Для мамы кніжкі.

Іван Муравейка

### СНЕГІРЫ

Зляцеліся снегіры
На рабіну,
На зімовы дружны пір,
На гасціну.

Як прыемна частаваць,
Частавацца!
І нікога навакол
Не баяцца.

— Еш, суседка! Еш, сусед!
Ешце, госці!
Дужа смачны ў нас абед,
Ягамосці!

На рабіне менш і менш
Ягадзінак.
У вяснушках белы снег
Пад рабінай.

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ ЗА УСЯСЛАВА ЧАРАДЗЕЯ І ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

Хоць і нямала пяцікласнікаў дабравольскай школы ўжо неаднойчы пабывала ў Беластоку, але ўсе яны з вялікай ахвотай і нават хваляваннем ехалі на экскурсію ў гэты горад. І не дзіва: у Беластоку ёсць што наведаць і на што паглядзець. Высотныя гмахі ў дванаццаць ці пятнаццаць паверхаў, глянеш — шапка з галавы валіцца! А хто адмовіцца пашпацыраваць па рухлівых гарадскіх вуліцах, купіць у кнігарні цікавую кнігу, пабываць у кіно і паглядзець займальны фільм? І нельга ж не заглянуць на дзядзінец прыгожага старажытнага палаца Браніцкіх, дзе працаваў выдатны рэвалюцыянер Фелікс Дзяржынскі. Пэўна, не знайшлося б і такога, хто не хацеў бы паблукаць па ўрослым старымі дрэвамі парку, палюбавацца ўтульным будынкам Драматычнага тэатра, у якім калісьці чыталі свае вершы многія паэты, таксама Янка Купала і Якуб Колас.

— Вядома ж, не прамінем зайсці і сюды, — сказаў настаўнік, калі экскурсія, наведаўшы рэдакцыю „Нівы" з „Зоркай", затрымалася перад будынкам, на якім відаць была шыльда: „Акруговы музей у Беластоку".

— Вы ўжо пачалі вывучаць гісторыю Беларусі, а тут якраз адкрыта выстаўка „На Беларусі за Усяслава Чарадзея і Ефрасінні Полацкай". Яе прывезлі аж з Мінска, а ў сталіцы Беларусі ў замен паказваюць выстаўку „Старажытны Кракаў". Нам проста пашанцавала: на свае вочы можам пабачыць тое, пра што нялёгка вычытаць у многіх кнігах.

Праз некалькі хвілін, пакінуўшы курткі і сумкі ў раздзявальні, уся грамада ўжо вандравала за экскурсаводам па выстаўцы. Пяцікласнікі з цікавасцю заглядалі ў вітрыны з рознымі рэчамі, якімі карысталіся васемсот год таму назад жыхары беларускіх земель. Прыглядаліся малюнкам і здымкам велічных крэпасцей, цэркваў, палацаў. Чыталі паясняльныя надпісы і слухалі тлумачэнняў экскурсавода.

Вучні даведаліся, што хоць кіеўскія князі змагаліся за ўмацаванне сваёй улады над усімі ўсходнімі славянамі, аднак еднасць Кіеўскай Русі пратрывала нядоўга. Развівалася гаспадарка, разрасталіся і багацелі гарады, у той жа час мацнела ўлада мясцовых князёў. Яны хацелі стаць незалежнымі ад кіеўскага князя, і Кіеўская Русь хутка распалася на ўдзельныя княствы, а тыя раздрабніліся на яшчэ меншыя ўладанні.

Першым адасобілася Полацкае княства. Яно стала найбольш магутным пры князях Ізяславе, яго сыне Брачыславе і ўнуку Усяславе. За розум, адвагу і спрыт, з якім Усяслаў абараняў Полацкую зямлю ад ворагаў, палачане празвалі яго Чарадзеем. Складалі легенды і песні пра яго подзвігі і незвычайныя прыгоды. Полацкае княства займала паўночна-заходнія землі Беларусі і мела па рацэ Дзвіне доступ да Балтыйскага мора і сувязь з еўрапейскімі краінамі. У ім добра развівалася сельская гаспадарка, рамёствы, гандаль. Хутка развіваўся і мацнеў Полацк. Тут жылі адважныя воі, здольныя рамеснікі, прадпрымальныя купцы. Развіваліся таксама і іншыя гарады: Відбеск (сённяшні Віцебск), Менск (Мінск), Брачыслаўль (Браслаў), Лагожск (Лагойск), Ізяслаўль (Заслаўе), Рша (Орша). Купцы Полаччыны вялі бойкі гандаль з суседнімі княствамі і гарадамі, а таксама з далёкімі замежнымі краінамі.

У Полацку да ўлады дайшло веча. Гэта быў агульны сход асабіста вольных жыхароў горада. Іх склікалі званамі Сафійскага сабора на плошчу, што прасціралася перад гэтым храмам. Веча абмяркоўвала важныя дзяржаўныя справы, аб'яўляла войны і мірылася з суседскімі княствамі, кантралявала дзейнасць свайго князя, уладкоўвала гандлёвыя адносіны з іншымі гарадамі і краінамі і рассуджала найцяжэйшыя злачынствы і складаныя спрэчкі паміж палачанамі. У вечы найважнейшая роля належала полацкаму князю, вяльможам, заможным гараджанам.

**Працяг у наступным нумары**

Рыгор Мароз

## ЗІМА Ў РАЗГАРЫ

Ад ранку снег ляціць, ляціць, ляціць... Паўным-паўнютка нападала яго. Пярынай акуталася зямля. Дахі дамоў стаяць, як нанава перакрытыя. На ўсіх аднолькавыя. Зіма нікому снегу не шкадуе.

А дрэвы ў садах? Красуюць, як каралевы. А можа, узімку зацвілі? Не можа быць! З квітнення гэтага карысці не будзе.

Аднак зіма свой абавязак знае. Каб перазімаваць усё магло: і збожжа ў полі, і дрэвы ў садзе, і трава на сенажаці — іх абсыпаць трэба больш пухам. Таму зіма снегу дадае.

А птушкі як? Звяркі на полі? Цікавы запытае. Вось тут і адказ — чалавек прыяцель іх! Ён ім ежы не пашкадуе. Вы, дзеці, ведаеце, настаўнікі вам часта прыпамінаюць і „Зорка" заўжды прыгадвае: дакармляйце ўзімку палявых звяроў і птушак. Не адзін з вас, падумаўшы, так скажа:

— Можа і так. Зіма і снег патрэбны. А навошта ж мароз? Можа, і ён патрэбны?

— А патрэбны, патрэбны, — адкажу вам. — Хто раку скуе? Хто лёд вам зробіць? Хто ўзоры на шыбах памалюе? А маляр ён вялікі! І фарбаў ён не патрабуе. Скрывіцца на гэта, можа, з вас не адзін, з тых, што холаду баяцца. З грымасай скажа:

— За нос кусае. Дабіраецца да пальцаў рук і ног. Кашаль горла душыць. Гэта ўсё — мароз!

Адно вам скажу: не бойцеся марозу! На вушы шапку нацягай. На рукі — рукавіцы, і на лёд! На санкі, на канькі, на лыжы. Мароз тады не страшны будзе. Зіма — гэта пара зімовых гульняў. Не праваронце іх. Калі ад вас адыйдзе, сонейкам вясна засвеціць, тады зіму цэлы год чакаць будзеце. І невядома яшчэ, якая яна прыйдзе.

## ЯК ПАБУДАВАЦЬ КАРМУШКУ?



*Найпрасцейшую кармушку можна зрабіць з дошчачкі або кавалка дыкты і прыбітых па баках ліствачак, так, каб зярняткі не рассыпаліся, калі мы будзем частаваць птушак. Такую кармушку завешваем на галінку пры дапамозе дроту або шнурка.*

*Лепшая кармушка — гэта дошчачка, прыкрытая дашкам. Такі „домік" выглядае вельмі прыгожа, і птушачкі яго любяць. На дашку можна прымацаваць некалькі зялёных галінак хвоі. Гатовую кармушку найлепш паставіць і замацаваць на слупок, укопаны ў зямлю. Можа гэта быць слупок ад звычайнага плоту каля хаты ці саду.*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 150031, г. Ярославль, ул. Автозаводская, д. 105, кв. 40. Демьянов Миша. 4 клас.

* * *

СССР, 346503, Ростовская обл, г. Шахты, пер. Баумана, 31. Селезнёвым Майе і Алисе. Па 12 год.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Волошина, 24-13. Шаталовой Алёне. 6 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Волошина, 24-13. Казинцева Елена. 6 клас.

* * *

СССР, 301253, Тульская обл., Одоевский район, п/о Ивицы. Филимонов Андрей. 5 клас.

* * *

СССР, 150031, Тульская обл., Одоевский район, п/о Ивицы. Тарасов Сергей. 3 клас.

* * *

СССР, 150031, г. Ярославль, ул. Автозаводская, 87, кв. 35. Новожилов Сергей. 5 клас.

## АДГАДАНКА



Замалюй палі, азначаныя кропачкай, і ты даведаешся, хто едзе на санках.


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-959 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## МОЖНА НАСІЦЬ

Майстар: — Вы толькі паглядзіце, як каўнер прылягае.

Заказчык: — Але рукавы дужа кароткія.

Майстар: — А талія як...

Заказчык: — Што-талія, калі рукавы кароткія!

Майстар: — Што вы дзяўбеце: „Рукавы, рукавы" — у жылетаў зусім іх няма, але ж іх носяць.

З суседскага агародчыка

### ЗАБРАЦЬ ВАСІЛЬКА

— Алё, мама! Я не магу сёння забраць Васілька. У мяне педсавет. Мамачка, можа б ты па яго зайшла?

Алена Рыгораўна ўздыхнула, апранулася і пайшла па добра знаёмым маршруце па Васілька.

Кароткі зімовы надвячорак хутка цямнеў, бы засвечаны ліст фотапаперы. Сівыя сняжынкі меланхалічнымі пчоламі раіліся ля ліхтароў.

Ля дзвярэй прыгожага дома яшчэ здаля Алена Рыгораўна заўважыла Славіка і Дзяніску, сяброў Васілька. Неўзабаве імкліва расчыніліся дзверы, і на вуліцу выпырхнуў зяючы Васілёк.

— У яе сёння педсавет, — радасна павedaміў ён, і вясёлая тройца, не заўважаючы Алены Рыгораўны, накіравалася ў падслепаваты змрок.

— Вася, дамоў! — як гром сярод яснага неба, прагрымеў голас Алены Рыгораўны. Сябры ледзьве не прыселі ад нечаканасці.

— Я вам пакажу „па рублiку"! Ану, марш, бессаромнікі, да жонак, да дзяцей, а то пайду да вашага начальніка аддзела!

— Фініта ля камедыя, — кісла канстатаваў начытаны Славік, і сябры панура пабрылі пад канвоем Алены Рыгораўны насустрач сем'ям.

**Віктар Шаўчэнка**









### НЕ ПРАДБАЧЫЎ

— Ты перастаў мяне любіць...

— Я цябе не разумею...

— Калісь ты абяцаў мяне насіць на руках...

— Тады ж я яшчэ не ведаў, што ты ў два разы пацяжэеш...

### У СУДЗЕ

У судзе колішняга прадаўшчыка Сымона Закавыку спыталі, чаму ён аблічваў пакупнікаў сістэматычна, але ў малых памерах.

— Цішэй едзеш — далей будзеш, — адказаў Закавыка.

### УСЁ НААДВАРОТ

Жонка чапляецца да мужа:

— Той маладзён глядзіць на цябе варожа, быццам ты яму запазычыўся.

— Наадварот, ён мне вінаваты. А я яму толькі нядаўна пра гэта згадаў...

### НАДУРНЯКА

Ідуць дадому два п'яніцы. Холад. А каля дарогі стог. Вось адзін з іх і кажа:

— Давай падпалім ды пагрэемся...

Падпалілі. Стаяць і грэюцца. А ў сяле ўбачылі пажар, бягуць людзі гасіць.

— Ты глядзі, — сказаў адзін, — як падпаліць, дык шкому, а як пагрэцца надурняка, дык бяжыць усё сяло...

— Самае забаўнае, што на тваім матацыкле няма ніводнай драпіны!



Ён жыў тым, што не даваў жыць іншым.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Я бачу, капітан, у вас дрэнны настрой. Што-небудзь здарылася?

— Я выйграў першы прыз у тэлевізійным конкурсе.

— Дык гэта добра!

— Каму як! Другі і трэці прызы грашовыя, затое першы — турыстычная экскурсія на нашым цеплаходзе.

*

Нью-йоркскі маклер на арэндзе жылля гаворыць маладажонам:

— Я, канешне, магу падабраць жыллё за адпаведную для вас цану. Але, з другога боку, я не зусім упэўнены, што вы згодзіцеся пераехаць у вёсачку ў Цэнтральнай Афрыцы!

*

— Не разумею, чаму ты незадаволена сваім мужам? Дык ён аддае табе ўсе зароблены грошы да апошняга філера.

— Што праўда, то праўда. аднак потым ён усе гэтыя грошы выігрывае ў мяне ў карты.

### ШТО З ГАЛАВОЙ?

Нупрэй скардзіўся Патапу:

— Не ведаю, што сталася з галавой. Пайду ў краму, не памятаю, за чым ішоў. Вярнуся дадому, не прыпомню, дзе быў. Можа гэта зацьменне якое? Га, Патапе?

— Не, не зацьменне.

— Чаму ты так думаеш?

— Таму што твая галава ніколі не была свяцілам, — глыбакадумна адказаў Патап.

**Савелій Паўлаў**

З „Весніка Задрыпоніі"

### У ЛІТСУПОЛЦЫ „ГАРА"

Літаратар Зязюлевіч не мог закончыць пачаты раман таму, што, прыдумаўшы геніяльную фразу для пачатку, ніяк не мог прыдумаць дастойную ёй другую.

### У САБРАТАЎ

У выніку ўпартых трэніровак певень стаў лётаць там, дзе жылі арлы. І так кукарэкаў, што арлы перасяліліся.



### ПРЭМІЯ

Скардзіўся Янук суседу
На сваю Мальвіну:
— Ну і жонка, што
сярнічка.
Не паднось бензіну.
А вярнусь дамоў, пачуе
Ад мяне дух вінны —
І пілуе, і пілуе
Не менш паўгадзіны.
Я забыў пра выпівакаў
І пра бакалею.
А як хораша на сэрцы!
Болей не хварэю.
Як дамоў прыйду
з работы,
Усміхнецца жонка.
Нібы прэмію, мне дорыць
Пацалунак звонкі.

**Паўлюк Праўдзі**



## Курёзы

### У САЛАУХІНА

Мой сябар — пісьменнік з невялікай аўтаномнай рэспублікі. Як і ўсе мы, раніцай ён разгортвае газету, мясцовую. Яго жонка сама газет не чытае, але, увіхаючыся на кухні ці бегаючы пабач, задае заўсёды адно і тое ж пытанне: „Ну што, каго знялі?"

*

Заляцаўся я да маладой жанчыны, настаўніцы, між іншым, маскоўскай школы. Вячэраем у рэстаране, ажыўлена гутарым. У зручны момант я ўставіў:

— Ну, ведаеце, вам для паўнаты вобраза не хапае толькі німба над галавой.

На твары субяседніцы адчулася змаганне пачуццяў: хоча аб чымсьці спытаць і саромеецца. Урэшце пераадолела сябе, рашылася:

— А што такое німб?

### КАРУЗА

Будучы яшчэ пачынаючым спеваком, Энрыка Каруза выступаў на сцэне аднаго маленькага мястэчка. Калі ён скончыў спяваць, нехта шпурнуў у яго качан капусты.

— Вось, — усклікнуў будучы вялікі спявак, — з-за майго спеву нехта ўжо страціў галаву!




Не думайце аб чалавеку дрэнна, калі можна наогул аб ім не думаць.